# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 26 красавіка 1994 года | № 44 (10744) | Цана 80 руб.


ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## ПАТУХЛІ ПЕЧЫ

**Нядаўна патухлі печы на Барысаўскім хрустальным заводзе імя Дзяржынскага. А яны, між іншым, згодна з тэхналогіяй бесперапыннай вытворчасці, павінны працаваць кругласутачна і ў будныя дні, і ў святы, а астываюць толькі праз два-тры гады на час правядзення капітальнага рамонту топак.**

Цяпер жа на месяц спынена ўся хрустальная вытворчасць, якая дае дзве трэці агульнага аб'ёму прадукцыі прадпрыемства.

— Не ад добрага жыцця мы вымушаны спыніць вытворчасць хрустальных вырабаў, — з сумам зазначае дырэктар завода Алмаз Смарагдавіч Кароль. — Скончыліся запасы важнейшых кампанентаў яго выплаўкі: свінцовага сурыку, каліевай салетры і цынкавых бялілаў. У Беларусі гэтых відаў сыравіны няма, набываем іх у Расіі і Казахстане. І хаця з даўнімі нашымі пастаўшчыкамі былі наладжаны добрыя сувязі, аднак з уваходжаннем у рынак кожны стараецца прадаць сваю прадукцыю таму, хто больш заплаціць. Вось мы і засталіся без сыравіны. Работнікі службы забеспячэння шукаюць патрэбныя матэрыялы, але іх намаганні не заўсёды прыносяць поспех. Яшчэ зусім нядаўна той жа сурык мы куплялі ў Казахстане па 900 долараў за тону, а сёння ўжо за гэта патрабуюць 1.100 долараў. Манапалісты дыктуюць свае ўмовы, а мы не заўсёды можам пагадзіцца з высокімі цэнамі, бо намнога ўзрасце кошт нашых вырабаў, і яны стануць недаступныя для большасці патэнцыяльных пакупнікоў.

Вымушанае спыненне хрустальнай вытворчасці кіраўніцтва прадпрыемства вырашыла скарыстаць для рамонту печаў, а рабочых адправіць у чарговы водпуск. А што будзе далей — пакуль невядома.

*(Наш кар.).*

## Міншчына прымае "чарнобыльцаў"

Планавае адсяленне жыхароў з раёнаў, пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, у Мінскую вобласць пачалося ў 1990 годзе. За гэты час тут з"явіліся цэлыя вуліцы, пасёлкі, дзе пражываюць людзі з Гомельскай, Магілёўскай абласцей. Згодна са статыстычнымі данымі, на пастаяннае месца жыхарства ў Мінскую вобласць за мінулы перыяд пераехалі 6.262 сям"і — гэта амаль дзевятнаццаць тысяч чалавек. Перасяленцам выдзелены 4.984 кватэры.

Больш за ўсё сем"яў з забруджаных тэрыторый прынялі Маладзечанскі, Смалявіцкі і Пухавіцкі раёны.

*/Наш кар./.*

■ Надзвычайная сітуацыя

# НЕ ДАПАМАГАЮЦЬ І ЗВЕННІ,

*або Чаму магутныя трактары хутка веснавое поле пакідаюць*

На Старадарожчыне ідзе сяўба збожжавых. У адных месцах выбарачна, у другіх — масава. Вясна прыпазнілася, трэба спяшацца. Таму ў кожным калгасе створаны звенні па тэхнічнаму абслугоўванню трактароў, сеяльных агрэгатаў. У іх уваходзяць слесары, токары, зваршчыкі. Апошнія, як правіла, дзяжураць непасрэдна ў полі.

І ўсё ж, бывае, вяртаюцца з палёў трактары, надоўга становяцца на прыкол. Асабліва крыўдна, калі нямеюць "Т-150", "К-700", "МТЗ-80", якія здольныя працаваць адразу з некалькімі сеялкамі. Што вельмі важна сёння, калі трэба эканоміць кожны кілаграм дэфіцытнага паліва...

— А ўсё таму, што доўгі час не было масла МІО-Г2, спецыяльна прызначанага для фарсіраваных рухавікоў, якія стаяць на энерганасычаных трактарах, — расказвае галоўны інжынер раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання У.Суркоў. — Залівалі тое, што пад руку трапляла. Тым самым псавалі рухавікі. І я баюся, што трактары, якія нядаўна спыніліся ў калгасах "Беларусь", "10 год Кастрычніка", іншых гаспадарках, — гэта толькі кветачкі. Небяспека навісла над многімі магутнымі машынамі калгасаў.

Сапраўды, дзе тонка, там і рвецца. Не знайшлі рэспубліканскія службы ў свой час масла на рублі — сёння калгаснікам трэба расплачвацца мільёнамі. Ды і цяпер сітуацыя не намнога лепшая. Дэфіцытнай змазкі ў раён паставілі столькі, што яе хоць на аптэкарскіх вагах размяркоўвай. Да таго ж, "К-700" ходзяць практычна без паветраных фільтраў. Новых няма, а прамытыя старыя — гэта звычайны самападман. Калі пыл слупамі пойдзе з-пад колаў, рухавікоў хопіць не надоўга.

Ды і ўвогуле, як праверыць стан тэхнікі? Раней пры райаграпрамтэхніцы была служба дыягностыкі, цяпер па розных прычынах яна распалася. У калгасах падобнага абсталявання няма. Вось і працуе тэхніка на знос. Многае і калгасныя механізатары маглі б адрамантаваць, але запчастак днём з агнём не знойдзеш. Нават да трактара "Беларусь".

— Дык як жа ўмудрыліся амаль усю тэхніку на веснавое поле вывесці? — пытаю.

— Вядома, стан трактароў, глебаапрацоўчых, сеяльных механізмаў горшы, чым у мінулыя гады. Але і за тое, што маем, трэба шчыра падзякаваць калгасным умельцам, — гаворыць У.Суркоў. — Многае яны зварылі, вытачылі, выразалі самі, штосьці рэстаўрыравалі. Нават даволі сур'ёзны заводскі брак ліквідоўваюць. Як, напрыклад, у калгасе "Старадарожскі", дзе новенькі РШУ-12 ніяк не мог раскідваць мінеральныя ўгнаенні. Дарабілі за гараджан... Бывае, цэлыя вузлы перарабляюцца, удасканальваюцца.

— Відаць, за рацыяналізацыю людзі прэміі атрымліваюць?

— У тым вось і справа, што ні капейкі. Была калісьці рэспубліканская арганізацыя вынаходнікаў і рацыяналізатараў, якая ацэньвала карысныя прапановы, прэміі за добрыя ідэі выдавала. Але і яна распалася. У ініцыятыўных работнікаў знік усякі матэрыяльны інтарэс да творчасці, пошуку. Ёсць людзі, якія проста старанна працуюць у імя грамадства. Але такіх бяссрэбранікаў не так многа...

Мы прывыклі сцвярджаць, што лёс любой вялікай справы ў першую чаргу вырашае ініцыятыва знізу. Сёння ініцыятывы гэтай, дакладней, жадання працаваць, у вяскоўцаў хоць адбаўляй. І вельмі патрэбна падтрымка яе зверху, неабходны сапраўдны клопат аб сельскіх працаўніках з боку рэспубліканскіх, абласных службаў. Калі мы жадаем хоць неяк праводзіць пасяўныя кампаніі, вырошчваць і ўбіраць ураджай.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ, кар. "Мінскай праўды".*

■ Пытанне рубам

## ПЛАТА ЗА ПАПЕРКІ

**З вялікім здзіўленнем і шчырай цікаўнасцю назіраю за тым, як расцягваецца па закавулках дзяржаўная маёмасць. Па-навуковаму гэта называецца "прыватызацыя", што азначае пераход ад усеагульнай уласнасці да прыватнай.**

Мы з жонкай вырашылі таксама "ўхапіць" кавалак ад дзяржаўнага пірага: надумаліся выкупіць у камунгаса двухпакаёвую кватэру. Пражылі ў ёй звыш 20-ці гадоў. Без усякіх яна выгод, з пячным ацяпленнем, у старым драўляным доме. Кватэру самі неаднаразова рамантавалі. Нават тады, калі падышоў тэрмін капітальнага рамонту, Лагойскае аб"яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі згадзілася перакласці толькі адну печку і замяніць электраправодку. Вось такую нядобраўпарадкаваную кватэру марылі "прыхватызаваць", бо лепшага жылля так і не дачакаліся на старасці год.

За гэтую справу ўзяўся восенню мінулага года. Пайшоў у кантору камунгаса. Работніца яго адказала на мае пытанні, хвіліны тры-чатыры запісвала адпаведныя даныя ў журнал. За такую невялікую паслугу запатрабавала з мяне 740 рублёў. У бюро тэхнічнай інвентарызацыі за выдачу даведкі-характарыстыкі кватэры спагналі яшчэ 5.120 рублёў. 24 тысячы "зайчыкаў" патрабуюць за тэхнічны пашпарт домаўладання. Цэны па стану на першае красавіка. А пакуль яго абмераюць і выдадуць пашпарт /тэрмін афармлення — паўгода/, кошт паслугі можа павялічыцца даволі значна.

Натарыус за афармленне двух невялічкіх дагавораў узяла 9 тысяч рублёў. Дамавая кніга, якую атрымаю ў пашпартным стале райаддзела ўнутраных спраў, абыдзецца мне ў адзін працэнт мінімальнай зарплаты. А яшчэ на некалькі тысяч рублёў пацягне абмер і прыватызацыя кавалачка зямлі ля дома. І ўсё ж кватэру выкупіў!

Меркаваў, што паколькі гэта ўжо мая ўласнасць, плату за кватэру ўносіць не трэба, а прынясуць адпаведную паперку аб падатку на жыллё. У камунгасе адказалі, што як уносілі квартплату, так і плаціце. І яшчэ —квіток аб падатку на прыватызаванае жыллё вам уручаць. Адзіная прывілея, якую атрымалі ўладальнікі прыватызаваных кватэр, дык гэта права яе прадаць, падарыць праз тры гады. А рамонт цяпер даводзіцца рабіць за кошт уласніка.

Дык што ж гэта атрымліваецца? Службы нажываюцца на выдачы паперак. Лічыцца, што нядобраўпарадкаванае жыллё перадаецца бязвыплатна. Якое там дармавое жыллё, калі спаганяюцца дзесяткі тысяч рублёў — як за квартплату. Не з таго, дык з другога боку пачысцілі нашы пустыя кашалькі.

*Генадзь ХОЦЫН, жыхар г.п.Лагойск.*



Склад гаруча-змазачных матэрыялаў, бадай, цяпер самы «стратэгічны» аб'ект у калгасах і саўгасах. Гэтым «арсеналам» у эксперыментальнай базе імя Катоўскага Уздзенскага раёна загадвае Галіна Аляксееўна Лескавец. Штодзень у яе пакойчыку-апаратарскай бываюць амаль усе механізатары і шафёры. Звычайна адсюль пачынаецца іх працоўны дзень. І як важна, каб адпраўляліся яны ў рэйс, у поле ці на ферму ў добрым настроі. А Галіна Аляксееўна заўсёды памятае пра гэта. Таму і аўтарытэт у яе сярод механізатараў заслужана высокі.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## КАНТАКТ ПАТРЭБНЫ І НАДЗЕЙНЫ

У вызначаны час каля прылаўка ў салігорскім магазіне № 43 выстройваецца чарга. Сюды прывозяць свініну, якая даволі хутка раскупляецца. Хаця ў іншых магазінах нярэдка залежваецца, і надоўга. У чым справа? Спытаем у пакупнікоў.

— Мы ведаем, што мяса свежае, толькі з забойнага цэха, — адказваюць жанчыны. — Пераканаъны, што яно не забруджана, бо паступае з калгаса «Герой працы» суседняга, экалагічна чыстага Старадарожскага раёна. Да таго ж, таннейшае, чым у іншых магазінах, — на яго значна менш робіцца розных гандлёвых накрутак.

Дык, можа, такі гандаль нявыгадны вяскоўцам?

— Наадварот! — заяўляе старшыня калгаса А.С.Плішч. — У нас надзейны пакупнік. А галоўнае — раніцай мы адправім свініну, а вечарам ужо грошы будуць ляжаць у нашай касе. Іх не «з'ядае» інфляцыя, як даволі часта бывае, калі маеш справу з мясакамбінатам. Таму мы зноў заключылі з магазінам дагавор на пастаўку прадукцыі да канца сёлетняга года.

— Магчыма, штосьці яшчэ збіраецеся прадаваць у ім?

— Маем абсталяванне для вырабу сардэлек. Выпрабавалі яго — атрымліваецца нядрэнна. Але пакуль што запусціць у вытворчасць не можам, бо не знайшлі вопытнага тэхнолага. Так што новая наша прадукцыя — справа часу... Вырабляем кумыс. Натуральны. З малака, атрыманага ад кабыл. Праўда, пакуль што ў невялікіх аб'ёмах...

Застаецца толькі пажадаць калгаснікам поспехаў у іх добрай справе, бо яны наладжваюць кантакт з горадам. Вельмі патрэбны і надзейны. Бо грунтуецца ён не на ідэалогіі, а на эканамічнай аснове.

*Уладзімір АДАМАЎ.*

## УШАНАВАННЕ АЛІМПІЙЦАЎ

***На зімовых Алімпійскіх гульнях у нарвежскім горадзе Лілехамеры ўпершыню самастойнай камандай выступала зборная Рэспублікі Беларусь. У яе саставе былі 33 спартсмены, сярод якіх дванаццаць прадстаўнікоў нашай вобласці. Гэта біятланісты Аляксандр Папоў, Віктар Майгураў, Яўген Рэдзькін, Ігар Хахракоў і Вадзім Сашурын, лыжнікі Алена Сіньковіч, Васіль Гарбачоў і Ігар Абухаў, фігурысты Таццяна Наўка і Самвел Гезалян, Сяргей Захаранка /лыжнае двыяборства/ і Аляксандр Сіняўскі /скачкі з трампліна/.***

***Зборная Беларусі ў неафіцыйным камандным заліку сярод 67 каманд заняла пятнаццатае месца. Гэта бясспрэчны поспех.***

***У канцы мінулага тыдня ў спартыўным комплексе "Раўбічы" адбылося ўшанаванне алімпійцаў нашай вобласці. Старшыня аблспорткамітэта М.В.Шапялевіч горача павіншаваў лепшых спартсменаў Міншчыны, выказаў упэўненасць, што яны і надалей будуць паспяхова прадстаўляць абласную фізкультурна-спартыўную арганізацыю ў зборных камандах рэспублікі.***

***Цёпла павіншаваў алімпійцаў і іх трэнераў намеснік старшыні аблвыканкома С.С.Паўлюкевіч і ўручыў ім памятныя падарункі.***

***У цырымоніі ўшанавання лепшых спартсменаў вобласці прынялі ўдзел першы намеснік старшыні аблвыканкома А.М.Жук, намеснік старшыні аблвыканкома К.І.Туровіч, старшыня нацыянальнага алімпійскага камітэта Рэспублікі Беларусь У.М.Рыжанкоў, начальнік абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў І.І.Карповіч.***

*Павел ЖУРБА.*

Бронислав СПРИНЧАН

## А В ДУШЕ – ТРЕВОГА

Белая береза у межи.  
Светлые, как радостные  
слезы,  
Капли сока, тонкий дух березы  
С детства – праздник  
для моей души.  
Мы –  
как на причастье –  
у лотка,  
По нему в кувшин струится  
влага –  
Нам землей ниспосланное  
благо.  
Я хмелею с первого глотка.  
Молча постояли и ушли.  
А в душе – тревога:  
что, как влиты  
В наши жилы радионуклиды  
Соком пробудившейся земли?

Смутная весна, не опои  
Нас отравой,  
чтоб канцерогены  
В день грядущий  
через наши гены  
Не пустили щупальца свои!

* * *

Зацвели лесные купыри.  
Купол неба над Полесьем  
светел.  
В лозняках, посвистывая,  
ветер  
Дует от зари и до зари.  
С пылью навеваются на  
травы,  
На сады, на зеркала криниц  
Мириады атомных частиц –  
Радиационная отрава.  
На опушке, выйдя на тропу,  
Я застыл:  
с природою в разладе,  
Выросли огромные, как лапти,  
Зубчатые листья на дубу.  
Стронций, цезий...  
Цезий и плутоний...  
Мне тревожно в поле и в  
лесу.  
Отрясая с буйных трав росу,  
Пьют ее подростки из  
ладоней.  
Атомщик, душою не криви, –  
Сколько получили мы в  
рентгенах  
Гибельных веществ  
канцерогенных,  
Сколько накопилось их в  
крови?  
Кто повинен – ядерный  
распад  
Или возвеличенный ученый,  
Множеством наград  
озолоченный, –  
Что болят головки у ребят?  
Лейкемия – катастрофы след.  
Содрогаюсь, на Чернобыль  
глядя...  
Не стереть тому клеймо  
проклятья,  
Кто на нас обрушил столько  
бед!

***

## В МЕРТВОЙ ЗОНЕ

Свет зари на горизонте  
Размывает мрак.  
Чашу жизни  
в мертвой зоне  
Раскрывает мак.  
Я в июньской синей рани  
Перед ним притих.  
Тонко очертились грани  
Лепестков тугих.  
Эта чаша  
царской краше,  
Радует глаза,  
Нежным жемчугом на чаше  
Светится роса.  
В окруженье разнотравья,  
Словно во хмелю,  
Мак поднес ее во здравье  
Рыжему шмелю.  
Знать ли им,  
что влился стронций  
В золотистый мед!  
Шмель, блаженствуя на  
солнце,  
Чашу смерти пьет.

■ Здарэнне

## СТРАШНАЯ НІТАЧКА

Чацвёртакласнік старадарожскай СШ №2 па дарозе ў магазін не мог прайсці міма прыгожай белай нітачкі, якая звісала з провада лініі электраперадачы. Працягнуў да яе руку... і тут жа ўпаў, страціў прытомнасць.

Хлопчык застаўся жыць. Але толькі цудам. Бо ў той нітачцы быў ток страшнага, смяротнага напружання — 10.000 вольт. Больш падрабязныя тлумачэнні нам даў галоўны інжынер раёна электрычных сетак М.І.Горбаль.

— Гэта не звычайныя ніткі, бо здольныя праводзіць электраэнергію, — растлумачыў Міхаіл Іванавіч. — Адкуль яны ўзяліся — невядома. Ёсць версія, што знойдзены на тэрыторыі ваеннага аэрадрома, які ўжо расфарміраваўся.

Небяспечныя ніткі і да гэтага не раз напаміналі аб сабе жыхарам горада, раёна. У адным месяцы магутная лінія электраперадачы адключалася 19 разоў, у другім — шэсць. З-за гэтых нітак... Не толькі дзеці, а і некаторыя дарослыя закідвалі іх на высакавольтныя правады — і грымеў выбух, успыхваў агонь. Лінія адключалася, знікала святло ў некаторых мікрараёнах горада, асобных пасёлках.

Мала таго, у месцах замыкання дарагія правады аплаўляліся, псаваліся. А, значыць, раней разліковага тэрміну яны могуць упасці на зямлю. Якая гэта небяспека — і падумаць страшна. Сапраўды, варварскія, дзікунскія «жартачкі»!

Выходзіць, нам не застаецца нічога іншага, як быць уважлівымі, асцярожнымі і разумнымі. Што дазволіць зберагчы не толькі народнае багацце, а і самае дарагое — жыццё чалавечае.

*(Наш кар.).*



**НАДВОР'Е**

***Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра — 10—15, у Мінску — 11—13 градусаў цяпла, дождж.***

## Рэха вогненнай бяды

### ФЕЕРВЕРК НА БАЗЕ

**Пажар узнік у вёсцы Барсукі Смалявіцкага раёна. Каля жывёлагадоўчай фермы эксперыментальнай базы «Жодзіна» ўспыхнула сенасховішча. Да месца здарэння былі накіраваны пажарныя падраздзяленні. Работнікам пажарнай службы спатрэбілася звыш пяці гадзін, каб патушыць агонь. У выніку пажару пашкоджана памяшканне, але яшчэ каля паўсотні тон корму будзе выкарыстана для жывёлы. Зараз высвятляецца прычына начнога феерверку ў гаспадарцы.**

### ВІНАВАТЫЯ — ДЗЕЦІ

**Пад вечар на цэнтральны пункт пажарнай сувязі Маладзечна паступіла паведамленне аб тым, што ў калгасе «Чырвонае» гарыць канюшня. Нават цяжка ўявіць, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б калгаснікі не заўважылі небяспеку. Знайшлося некалькі добраахвотнікаў з вёскі Канчаны, якія эвакуіравалі коней з палаючай стайні.**

**Бяда здарылася ў выніку свавольства з запалкамі малалетніх дзяцей Дзяніса Я. і Дзімы Л. Цяпер бацькам давядзецца кампенсаваць страты за ўчынак дзяцей.**

### ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ ПРЫТУЛКУ

**У тую ноч барвовае зарава асвяціла наваколле вёскі Сноў Нясвіжскага раёна. Полымя ахапіла пяцікватэрны дом, у якім жылі рабочыя мясцовага крухмальнага завода. У барацьбе з агнём сілы былі няроўныя, і таму жыхарам удалося толькі вынесці хатнюю маёмасць. Агонь не пакінуў нават вуглоў. Пакуль што пагарэльцы размясціліся ў сваякоў. Прычына пажару высвятляецца.**

### ПЕННАЯ АТАКА

**Толькі з дапамогай пеннай атакі быў ліквідаваны пажар на дрэваапрацоўчым камбінаце імя Камінтэрна ў Барысаве.**

**Ноччу тут успыхнулі два паравозы, якія былі прыстасаваны пад кацельню на гэтым прадпрыемстве. Сітуацыя ўскладнілася тым, што побач праходзіць газаправод, паблізу размешчаны ёмістасці з гаруча-змазачнымі матэрыяламі, у цэху знаходзілася шмат гатовай прадукцыі. Асабліва моцна былі перагрэты ёмістасці з палівам. Аператыўны дзяжурны ваенізаванай пажарнай службы горада І.С.Кавалёў правільна ацаніў абстаноўку. Пажарныя дзейнічалі самаадцана і хутка ліквідавалі небяспеку.**

### ПАЖАР У «ЯСНАЙ ПАЛЯНЕ»

**Як толькі паступіў трывожны сігнал з «Яснай паляны», на тушэнне агню адразу была накіравана пажарная тэхніка з Маладзечна. У вёсцы Відзеўшчына загарэўся дачны домік загадчыцы бібліятэкі мэблевай фабрыкі Г.Л.Шутовіч. Спецыялісты пажарнай справы вядуць дазнанне па гэтаму здарэнню.**

**Дарэчы, толькі ў красавіку пажары ў дачных таварыствах зарэгістраваны ў Дзяржынскім, Смалявіцкім і Мінскім раёнах.**

**Упраўленне ваенізаванай пажарнай службы УУС аблвыканкома ў красавіку праводзіць месячнік пажарнай бяспекі. Кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, усім грамадзянам неабходна зрабіць усё магчымае, каб пазбегнуць вогненнай бяды.**

### ТРАВА ЛЯ ДОМА

**Неперспектыўнай аказалася вёсачка Пятроўка, што ў Чэрвеньскім раёне. Усяго 11 пабудоў засталося тут. Але людзі з прыходам вясны наведваюцца сюды, працуюць на агародах.**

**Сярод белага дня загарэўся дом у вёсцы. Няшчасце заўважылі жыхары другой вёскі, адкуль і паступіў трывожны сігнал у пажарную службу. На жаль, агонь знішчыў два дамы.**

**Прычына пажару вельмі простая. Нейкі чалавек вырашыў выпаліць сухую траву, маўляў, каб быў лепшы сенакос. Ніякай карысці ад гэтага не атрымалася, а вось шкоды — шмат.**

### НЯПРОШАНЫ ГОСЦЬ

**У выхадны дзень «чырвоны певень» завітаў да галоўнага агранома калгаса «Лоск» Валожынскага раёна М.Л.Барады. Нягледзячы на тое, што кватэра была на замку, «хатняя птушка» нарабіла нямала бяды. Ад няпрошанага госця дываны, тэлевізар, іншая маёмасць прыйшла ў непрыгоднасць. Пажарныя патушылі агонь і адстаялі дом. Мяркуецца, што загаранне ўзнікла ад няспраўнай электраправодкі.**

*Фёдар САГАНОВІЧ, супрацоўнік упраўлення ваенізаванай пажарнай службы УУС аблвыканкома.*

## ■ АПК і рынак

**Два-тры гады назад на вуліцах і плошчах нашай сталіцы нямала было "сцяганосцаў" фермерства. Стаялі нават за тое, каб адным махам развaліць калгасы, зямлю, жывёлу раздаць "жадаючым працаваць". Вось тады, маўляў, горад удосталь будзе есці хлеб і булкі, вяндліну і каўбасы, сыры і масла... Літоўскі "вопыт" вымусіў спярша задумацца. Між тым сёння і беларускім сялянам даводзіцца пажынаць плады дзікага рынку... Калгасы яшчэ працуюць. А раптам і іх заўтра напаткае такі ж самы лёс?.. Дык ці туды ідзём?.**

# КРАХ НА ФОНЕ МАРЫ

## Яго зведаў першы на Салігоршчыне фермер

Той шасцігадовай даўнасці веснавы дзень і цяпер стаіць перад вачыма... Мікалай Макаравіч абапёрся на сахор, якім выкідваў гной з-пад кароў, глядзеў на сваю невялічкую вёску Крушнікі і гаварыў-марыў:

— Пабудую добры кароўнік, каб трактарам гной выдаляць можна было... Вясной, восенню да нас з-за гразі ні бытавікі, ні аўтакрама дабрацца не могуць. Стану на ногі, абавязкова гравійную дарогу адсыплю. Няхай вяскоўцы вальней уздыхнуць. Добры дом пабудую, каб і дзеці, і ўнукі мае нікуды ад зямлі роднай не збягалі.

М.М.Тройнічу тады толькі пераваліла за пяцьдзесят. Атрымліваў ільготную шахцёрскую пенсію. Кружыла галаву цёплае веснавое паветра, свежы подых гарбачоўскіх перамен. Зноў прагучаў лозунг: "Зямля — сялянам!". А Мікалай Макаравіч — і калі працаваў у шахце, і калі кіраваў экскаватарам — лічыў сябе селянінам. Якога галеча проста адарвала ад зямлі, прымусіла падацца "ў людзі", шукаць там заработку, шчасця...

Карацей, вырашыў Мікалай Макаравіч вярнуцца з Салігорска ў родную вёску. І стаў першым у раёне арандатарам, а потым — і фермерам. Горача пераконваў іншых: "Бярыце зямлю, адраджайце сілу яе! Зямля не можа як след радзіць, калі на ёй з ранку працуе адзін, у абед — другі, а вечарам — трэці". Пакрысе набываў усё самае неабходнае для сялянскай працы. Два гады назад ужо меў 14 гектараў зямлі, 16 кароў і бычкоў, трактар, аўтамабіль, гноераскідальнік, плугі і розныя іншыя прылады. За той сезон прадаў тры з палавінай тоны мяса, больш як 10 тысяч літраў малака. Няцяжка падлічыць, колькі людзей кармілі-паілі Мікалай Макаравіч з жонкай. Паглядзець на яго работу прыязджалі спецыялісты з Мінска, Масквы... Дзівіліся. Хвалілі. Нешта абяцалі. Здавалася, вось-вось фермер, які ад цямна да цямна завіхаўся то ў полі, то на ферме, стане на ногі, пабудуе кароўнік, дом, вяскоўцам — дарогу. І вось, нібы гром сярод яснага неба, — навіна:

— Тройніч ужо нагаспадарыўся, супакоіўся. Аддаў зямлю назад дзяржаве.

Адразу і не верылася. Селянін добраахвотна адмовіўся ад зямлі, аб якой так марыў, за якую змагаўся, якую паспеў паліць потам. Чаму?

— Бо пераканаўся, што ні я, ні мая праца нікому не патрэбны, — з крыўдай у голасе гаворыць Мікалай Макаравіч. — Некаторым нават вочы мазоліў. Сёй-той цяпер радуецца, усміхаецца: ну што ты, аднаасобнік, даказаў?.. Думаў я думаў, ды і напісаў заяву ў райвыканком. Маўляў, больш не магу, адмаўляюся ад зямлі. Прыехаў на пасяджэнне, а мяне супакоілі: "Ваша заява можа быць разгледжана і без вас". Аддаў я ўсе дакументы. Плюнуў. Ды назад павярнуў...

У заяве гаварылася: "Не магу больш апрацоўваць зямлю, таму што летась памёр сын-памочнік, а мы з жонкай старыя..." Гэта — фармальна. Аб сапраўдных прычынах Мікалай Макаравіч расказвае з горыччу ў голасе.

— Ствараецца ўражанне, што хтосьці спецыяльна хоча выкарчаваць кволыя парасткі фермерства, загубіць усю сельскую гаспадарку. Задыхаюцца калгасы. Але я раскажу аб сваіх балячках... Яшчэ ў 1992 годзе напісаў кіраўніцтву райвыканкома заяву з просьбай прадаць мне лесу, цэглы для будаўніцтва кароўніка. Не было дзе кароў трымаць: стары бацькоўскі хлеў вось-вось разваліцца. І што ж? І сёння адказу чакаю. Няма, можа, будматэрыялаў? Тады з чаго ж, нібы грыбы пасля дажджу, вакол Салігорска растуць гмахі-катэджы? Яны для кагосьці намнога даражэйшыя за маю ферму...

— Былі выдзелены вялікія сродкі непасрэдна для патрэб фермераў, — спрабую не пагадзіцца з субяседнікам. — І не можа быць, каб частка іх не трапіла да вас.

— Як жа, трапіла, — адказвае Мікалай Макаравіч. — Каля трыццаці тысяч, гады два назад. Але якая карысць ад іх? Выдзелілі мне 9 гектараў ворыва і пяць — балота. У асноўным сваімі сіламі выкарчаваў яго. Папрасіў асушыць. Меліяратары выкапалі там дзве сажалкі. А канал не пракапалі. І што толку, што вада збіраецца ў сажалках? Навокал усё роўна мокра. Летась вымакла больш гектара збажыны, столькі ж — бульбы. А ўсё ж гэта — мая праца... Падстанцыю каля нашай сядзібы многія месяцы абсталяваць абяцалі, каб, значыць, пры рамонце тэхнікі можна было той жа электразваркай карыстацца. Але ніхто і пальцам не паварушыў, каб выканаць абяцанае. Ды што там падстанцыя. Шэсць гадоў на трактары "Беларусь" адным акумулятарам карыстаўся, які на два сезоны разлічаны. І куды толькі ні звяртаўся, каб прадалі новы, — усё безвынікова. Гэта што, клопат?..

Тады, шэсць гадоў назад, Мікалай Макаравіч дзесьці глыбока ў душы спадзяваўся, што да яго хоць крышку будуць ставіцца так, як да фермера на Захадзе: ты толькі працуй, давай хлеб, малако, мяса. Мы табе і запчасткі даставім, і тукі падвязём... Тройнічу даводзілася быць спачатку дастаўшчыкам, а потым механізатарам, землякопам, жывёлаводам. У апошні час ён не мог нават здаць малако ад сваіх кароў, бо да цэнтра калгаса каля пяці кіламетраў, а бензін такі дарагі, што дастаўка паўсотні яго літраў аднымі стратамі абарочваецца. А як разлічваюцца мясакамбінаты за купленую ў фермера прадукцыю? Пакуль разбяруцца з паперамі, рахункамі, ад мазалямі зароблених грошай інфляцыя "рожкі ды ножкі" пакідае...

Доўга расказваў Мікалай Макаравіч аб сваіх крыўдах. Аб тым, як уважліва глядзелі асобныя афіцыйныя асобы на яго патугі, хвалілі, спачувалі. І, ад"ехаўшы сотню метраў ад кароўніка, небам накрытага, тут жа забывалі аб праблемах фермера. А атрымліваецца — і яны "аралі"... Калі выплыве чалавек, то можна будзе сказаць: "Мы ж там бывалі. Чым маглі дапамагалі". А не — значыць, за непасільную задачу ўзяўся Тройніч, не "ўпісваецца" сёння ў нашу гаспадарку...

Так, нічога не зарабіўшы, нічога не пабудаваўшы, плюнуў на свае светлыя мары фермер. Жывёлу — якую прадаў, якую прырэзаў. Пакінуў толькі дзвюх кароў. Зусім непатрэбным аказаўся даільны апарат, куплены ў разліку на невялікую ферму. Мяркуе прадаць аўтамашыну, трактар "Беларусь", прылады да яго. Купіць міні-трактар. Ды будзе працаваць на гектары, які яму паложаны, як і кожнаму вяскоўцу.

На Салігоршчыне не проста знік адзін вольны селянін. Не стала яшчэ аднаго прыхільніка самастойнага сялянскага гаспадарання, які ўсёй душой успрыняў гэтую ідэю. Выпрабаваў яе на сабе. І "згарэў"...

А бацькоўскі хлеў тым часам развальваецца. Па-ранейшаму не мае Мікалай Макаравіч лесу, цэглы для яго рамонту. Што ж наперадзе? У галаву лезуць думкі: а раптам канчаткова надакучыць М.М.Тройнічу такая сялянская "рамантыка", кіне ён апошні кавалак зямлі, вернецца назад у горад ды стане ў чаргу за малаком... Няўжо камусьці гэта выгадна?

*Уладзімір БЫЧЭНЯ, кар."Мінскай праўды".*

## ШЧЫРА ВАС ЗАПРАШАЕМ!

ФОТАРЭПАРТАЖ

*Мінскі універсам «Цэнтральны» — сучаснае камп"ютэрызаванае прадпрыемства з моцнымі гаспадарчымі сувязямі. Тут ёсць усё: ад прадуктаў першай неабходнасці да валютных далікатэсаў. Наведвальнікам прапануюць нават навінкі італьянскіх швейных фірм. Сумеснае прадпрыемства «Капрычыо» створана разам з вядомай італьянскай фірмай «Рэма».*

*«Цэнтральны» ўносіць важкі ўклад у дзяржаўную казну: з кожнага заробленага рубля магазіну застаецца толькі 22 капейкі, астатняе паглынаюць падаткі. І ўсё ж гандлёвыя нацэнкі тут параўнаўча невялікія — 19 працэнтаў /пры абмежаванні ў 30/. Буйнейшы універсам горада працуе для масавага пакупніка. Асноўны асартымент — не замежныя прысмакі, а хлеб, малако, мяса, паўфабрыкаты.*

**На здымках:** *добра працуе малады касір Алена* ***Капыток****; у зале сумеснага прадпрыемства «Капрычыо»; эканаміст Галіна* ***Жандарава*** *і праграміст Алег* ***Гучэнка****.*

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*

## Милосердие

# Спешите делать добро

**В Белорусский фонд милосердия и здоровья, расположенный по ул. К.Маркса, 39 в Минске, часто обращаются пожилые люди и инвалиды по самым разным вопросам.**

**Здесь внимательно выслушают каждого и сделают все возможное, чтобы облегчить участь тех, кто немощен, недееспособен.**

— Только за прошлый год наш фонд оказал материальную помощь нуждающимся на общую сумму 274 млн. рублей, — говорит председатель Фонда милосердия и здоровья Валентина Владимировна Колосова. — Многим гражданам оплачены коммунальные услуги, лекарства, выделены продуктовые посылки, а также выданы бесплатные путевки в дома отдыха на сумму 165 млн. рублей.

Из множества просьб в прошлом году 610 человекам и за январь— февраль текущего года более 100 оказана материальная помощь.

Многим социально незащищенным людям выдана обувь.

Например, в январе этого года инвалиды Минска получили от фонда 50 инвалидных кресел-колясок производства ФРГ на сумму 75 млн. рублей. Жители города, живущие на минимальную пенсию, получили продуктовые посылки на сумму 325 млн. рублей.

В адрес фонда часто поступают теплые письма с благодарностью за оказанную помощь.

Вот некоторые из них.

*"Уважаемая председатель фонда. Я от всей души благодарю лично вас, благодарю лично всех работников фонда за то самое доброе и по-настоящему человеческое внимание, с которым вы отнеслись к моей просьбе как инвалида Советской Армии I группы. Очень верю и надеюсь, что доброта ваша и к вам еще не раз сторицей вернется. Леонид Павлович Шестеров, проживающий в Узбекистане, Наманганская обл., Папскций р-н, пос. Уйгурский".*

*"Председателю Фонда милосердия и здоровья Республики Беларусь. Совет Минской общественной организации переселенцев, пострадавших от катастрофы на ЧАЭС, — "Жизнь" выражает искреннюю признательность сотрудникам фонда и лично вам за оказанную помощь и сотрудничество с нами. Надеемся, что и в дальнейшем вы не оставите нас наедине с нашей бедой. С глубоким уважением председатель Минской общественной организации "Жизнь" Т.Протченко".*

В последнее время в нашей республике уделяют немало внимания вопросам социального обеспечения пожилых людей и инвалидов. Но этого недостаточно. Не полностью решены вопросы о транспорте, который не приспособлен для перевозки людей этой категории, об обеспечении их продуктами первой необходимости. Да и получаемые пенсии (пособия) у многих низкие. Не приспособлены для таких людей и жилые дома, учреждения культуры и многое другое.

Напрашивается вопрос: до каких пор мы будем не замечать тяжелую жизнь инвалидов и пожилых людей, их острые проблемы?

Успех рыночной экономики не будет полным без возрождения действенного Милосердия к людям пожилого возраста и инвалидам.

*Иосиф ПОЖОГА.*

## ■ Вось так і жывём

# ДЗЕ ЎЛАДКАВАЦЦА ТОЛІКУ

Словы "беспрацоўны", "шукаю работу" ўсё часцей чуеш сёння на Клеччыне. Ці можна хоць у нейкай меры змякчыць гэты сацыяльны ўдар?

— Мы робім усё магчымае, каб чалавек не страціў надзеі, — гаворыць начальнік раённага цэнтра занятасці насельніцтва І.У.Івашоў. — Трымаем пастаянную сувязь з прадпрыемствамі, арганізацыямі, калгасамі. Калі дзе-небудзь "намацаем" вакантнае месца, дык адразу імкнёмся ўладкаваць туды "нашага чалавека" з ліку беспрацоўных.

Трывожыць тое, што за "бортам" аказваецца шмат моладзі, учарашніх выпускнікоў сярэдніх школ. Па меры магчымасці мы вучым іх розным "ходавым" спецыяльнасцям. Напрыклад, за сродкі нашага цэнтра дванаццаць дзяўчат займаюцца на пяцімесячных курсах швачак у Клецкім ПТВ-206. Яны будуць працаваць у КБА. Шэсць маладых закройшчыц, якія раней набылі прафесію, уладкавалі на малое прадпрыемства "Родны кут" /там арганізаваны пашыў мужчынскага адзення/.

***— Мусіць, дапамагае вам "развязваць вузлы" рэспубліканскі цэнтр перападрыхтоўкі?***

— Так. У ім летась вучылася каля 60 чалавек. Амаль усе яны ўжо маюць "цвёрдае" месца работы. Хлопцы працуюць у асноўным электразваршчыкамі, токарамі, слесарамі. Дзяўчаты — вязальшчыцамі, швачкамі, поварамі... Жыццё дыктуе свае "статуты": мы пачынаем вучыць у Мінску і будучых камерсантаў. Бо, згадзіцеся, пераход да рыначных адносін многія маладыя людзі ўспрынялі як пагоню за доўгім рублём.

***— Апошнім часам з"яўляюцца беспрацоўныя ў вёсках. Няўжо і там нельга знайсці ім занятак?***

— Цяпер усюды "падціскаюць штаты", лічаць сродкі, эканомяць. Возьмем вёску Заастравечча... Гэта даволі буйны населены пункт. Там працаваў цэх па пашыву жаночага адзення ад швейнай фабрыкі, дзейнічаў камбінат надомнай працы. І вось пасля фінансавай "карэкціроўкі" адміністрацыя вырашыла "прыкрыць" гэтыя цэхі. Да нас адразу прыйшлі станавіцца на ўлік па беспрацоўю амаль 50 чалавек. Скажыце: як ім дапамагчы? Многія ў вёсцы маюць жыллё, зямельныя ўчасткі. У іншае месца яны не пераедуць. Значыць, трэба думаць, як уладкаваць людзей дзесьці паблізу. Хаця, паўтараю, гэта вельмі няпроста.

***— Сярод беспрацоўных ёсць і былыя воіны. Згодна з заканадаўствам, яны павінны быць уладкаваны на ранейшае месца работы.***

— Павінны... Ведаеце, гэта балючае пытанне. Скажам, Сяргей Салагуб працаваў да арміі ў ДРБУ-212. Цяпер у нас на ўліку. Тое ж самае можна сказаць пра Дзмітрыя Міцулю з гэтай дарожнай арганізацыі. Безумоўна, кіраўніцтва ДРБУ можна зразумець: няма сродкаў на зарплату. Але ж "раскідвацца" такімі кадрамі не варта.

***— Ведаю, вам, Ігар Уладзіміравіч, каштавала нерваў працаўладкаванне былога "афганца" Толіка Кобрына.***

— Хлопец нервовы, з няпростым характарам. Працаваў на механічным заводзе, будаўніком — па дагавору ў калгасе "Шлях да камунізму", у ахове мясцовай вайсковай часці. Мусіць, не ўсюды яго разумелі. Цяпер беспрацоўны. Вось думаю, дзе яму знайсці што-небудзь па душы. У нашым цэнтры зарэгістравана больш як 330 беспрацоўных, з іх 212 атрымліваюць грашовую дапамогу. Як бачыце, тут не засумуеш.

*Гутарыў Канстанцін ПРЫЁМКА.*

# ПАКРУЧАНЫ, ПАБЛЫТАНЫ

## зусім не шаўкавісты лён

Нарыхтоўчы пункт ільнотрасты, што побач з вёскай Прылепцы каля Плешчаніцаў. Першае, на што звяртаеш тут увагу, — вялікія, па 90—100 тон, сціртны снапоў. А побач — унушальных памераў павець, запоўненая рулонамі.

/Складзіраванне трасты такім спосабам вядзецца ўжо тры сезоны/.

Пункт у вытворчых адносінах падпарадкаваны Крупскаму льнозаводу. Працуе круглы год. У дні масавай дастаўкі прадукцыі тут не бывае выхадных і святаў.

Цяпер ідзе адгрузка сыравіны на галаўное прадпрыемства. Ужо адпраўлена яе больш як 300 тон. Але за дзень адгружаюцца ўсяго дзве аўтамашыны. Больш хутка арганізаваць работу немагчыма: праблема з бензінам.

У той жа час Крупскі завод з-за недахопу сыравіны працуе не на поўную магутнасць.

Апошнія чатыры гады пунктам кіруе Алена Сцяпанаўна Бахар. Яна гаворыць, што ў канцы 70-х за сезон прымалі па чатыры тысячы тон ільносыравіны. Везлі яе з Лагойскага, Вілейскага, Мядзельскага раёнаў. Цяпер — толькі з гаспадарак Лагойшчыны. Пазалетась яны здалі ўсяго 707 тон трасты, летась — 1.180 і 960 тон — ільносаломкі. Ды галоўная недарэчнасць заключаецца ў тым, што якасць прадукцыі стала значна горшая. І вырошчваць яе развучыліся льнаводы, і даводзіць да ладу. Лён часта вязуць прама з поля. Узнімаюць яго са сцелішчаў няўмелыя рукі студэнтаў і школьнікаў. Снапы звязаны неакуратна, расліны пераблытаны, перакручаны. Якая ўжо тут якасць?..

Раней Беларусь славілася льном. Наш даўгунец і ў далёкім замежжы карыстаўся павышаным попытам. Таму крыўдна і сорамна чытаць у перыядычным друку, што цяпер ідзе адваротны працэс — славяне возяць лён з Галандыі. Ды і як не вазіць, калі ў мінулым годзе на Лагойшчыне самы высокі нумар трасты быў 1,25. Раней жа яна прымалася нумарамі ад 1,5 да 2,5. Цяпер такіх паказчыкаў якасці няма альбо сустракаюцца яны вельмі рэдка. А ў выніку калгасы страчваюць прыбытак. І прычыны тут не толькі ў неспрыяльных умовах надвор"я, а ў тым, што лён любіць працавітыя рукі. Змаглі ж і летась нядрэнна выхадзіць яго працаўнікі калгасаў "8 Сакавіка", імя Будзённага, "Перамога", "Шлях Леніна".

Сёлета чакаецца значнае павышэнне закупачных цэн на льнопрадукцыю. Так што вырошчваць добры лён стане больш выгадна. І гэта павінны мець на ўвазе аграномы гаспадарак.

*Генадзь ХОЦЫН. Лагойскі раён.*

## ■ З першых вуснаў

# РАСКІДВАЕМ КАЛГАСНАЕ. ДЫ, МОЖА, І СВАЁ?

**Пакуль сродкі масавай інфармацыі розных узроўняў ствараюць імідж прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла, пакуль бясконцыя дэбаты ў парламенце толькі выклікаюць сумненні ў бескарыслівасці намераў народных выбраннікаў, людзі ў вёсцы заняты празаічнай справай. На двары вясна. І разам з ёю паўстае безліч клопатаў, галоўны з якіх — пасяўная. Напэўна, менавіта тут вяршыцца сёння тая высокая палітыка, ад якой залежаць багацце нашага стала, узровень жыцця, а адсюль — і адносіны да дзейнасці тых дзяржаўных асоб, каго мы выбіраем, каму выдаём аванс даверу.**

**Такая размова цяпер ідзе ў кожным сельгасупраўленні. Што будзе, куды мы нарэшце прыйдзем, дзе дно той бездані, у якую мы падаем?**

**На пытанні нашага карэспандэнта Марыі КУЗАЎКІНАЙ адказваюць Віктар Станіслававіч ШАХРАЙ — галоўны аграном упраўлення сельскай гаспадаркі і нарыхтовак Вілейскага райвыканкома, Марыя Аляксандраўна СКУР"ЯТ і Марыя Барысаўна ВАЙТУЛЕВІЧ — спецыялісты ўпраўлення.**

Карэспандэнт: — *Бытуе думка, што калгасы і саўгасы ў сваёй барацьбе за выжыванне пакінуты сам-насам. Маўляў, кожны ратуецца ў адзіночку. Калі гэта так, то навошта нам у саставе выканкома мець такую структуру, як упраўленне сельскай гаспадаркі?*

**В.Шахрай:** — На такое прамое пытанне павінен, напэўна, быць і прамы адказ. Мы ўсе тут — спецыялісты, з пэўным стажам практычнай работы. І пераканаць у мэтазгоднасці нашага існавання можна, напэўна, толькі фактамі. Дык вось — факты. Толькі за першы квартал бягучага года мы дапамаглі калгасам і саўгасам атаварыць па фіксаваных цэнах каля 80 працэнтаў іх патрэбнасцей у гаруча-змазачных матэрыялах. Служба забеспячэння гэтым займаецца. Па збожжавых і зернебабовых раён поўнасцю забяспечаны насеннем. Аналагічнае становішча з яравымі і льнонасеннем. Я гэта да таго, што райсельгасупраўленне, у асобе яго спецыялістаў, з"явілася тым каардынуючым цэнтрам, які не толькі змог акумуляваць праблемы сённяшняга дня, але і нейкім чынам іх вырашаць. Цяжкае ў нас зараз становішча з насеннем кукурузы. На рэспубліканскім узроўні ёсць дагавор з Малдавіяй: эквівалент адной тоны насення гэтай культуры — 10 тон фуражу. Не здзіўляйцеся: усё пералічана на долары па сусветных цэнах. Малдавія інакш не гандлюе. Аднак нам ад гэтага не лягчэй. Не забывайцеся, што той фураж павінен быць дастаўлены чыгункай з накруткай па шэрагу транспартных расходаў.

Цяжкае становішча з мінеральнымі ўгнаеннямі. Толькі па калійных мы забяспечаны на палавіну патрэбнасцей, па фосфару — на 16 працэнтаў, па азоту — на 40. У гэтым напрамку актыўна дзейнічалі і "Сельгасхімія", і самі гаспадаркі. Але запозненыя льготныя крэдыты /іх нам толькі што выдалі/ не дазволілі своечасова зрабіць перадаплату...

Карэспандэнт: — *Што гэта за крэдыты і ў чым іх перавага?*

**В.Шахрай:** — Па-першае, яны даюцца пад мінімальныя 6,5 працэнта з разліку 120,4 тысячы рублёў на гектар сельгасугоддзяў. Атрымалі гаспадаркі аванс пад заключаныя дагаворы на пастаўку прадукцыі. Праўда, атрымалі не ўсе. Нясвіжскі і Валожынскі льнозаводы нам вінны каля 300 мільёнаў рублёў...

Карэспандэнт: — *Кіруючыя органы сельскай гаспадаркі на месцах перажылі шэраг перамен. Былі ўпраўленні, пасля сталі РАПА, потым — зноў упраўленні. Гэта што — прага пераўтварэнняў, даніна модзе ці элементарная паказуха, дзякуючы якой хтосьці з "уплывовых" мог зарэкамендаваць сябе і пераўтваральнікам, і прагрэсіўным дзеячам, які глыбока разумее неадкладнасць перамен?*

**В.Шахрай:** — Ведаеце, я — не палітык. Я ўсё жыццё тэхнолаг. Гэтым займаюся і зараз. Разумею, што стварэнне адзінага аграпрамысловага комплексу павінна было нейкім чынам падтрымаць вёску, справядліва раздзяліць прыбытак перапрацоўчых прадпрыемстваў. Нічога гэтага мы не дабіліся. І той жа малаказавод не даў нам магчымасці атрымаць дывідэнды з яго прыбытку.

Па сутнасці, апарат РАПА сталі "карміць" калгасы і саўгасы — гэта адзін нюанс. Сёння мы на дзяржаўным бюджэце, але адлічэнні ідуць з той жа крыніцы. Па сутнасці нічога не змянілася. Калі не ўлічваць таго, што апарат упраўлення скараціўся больш чым утрая.

Карэспандэнт: — *Мы прыйшлі ў так званы рынак. А гэта — і скарачэнне рабочых месц, і ліквідацыя цэнтралізаванага кіраўніцтва. Як удаецца вам вось тут, на месцах, рэальна захоўваць прыкметы ўладнай структуры?*

**М.Скур"ят:** — Мне здаецца, ні ўлады, ні ўрада ў нас даўно ўжо няма. І наколькі мы сёння патрэбны калгасам і саўгасам, настолькі мы і выконваем свае функцыі. Пра іх ужо дастаткова многа гаварылася ў пачатку нашай гутаркі. Магчыма, мяне ўпікнуць у кансерватызме. Але сёння хацелася б мець такі парадак, як на пачатку перабудовы. Хіба дрэнна было, што рэсурсы размяркоўваліся цэнтралізавана? Прынамсі, дзякуючы цэнтралізаваным пастаўкам ГЗМ мы ў сваіх кватэрах ніколі не мерзлі.

Карэспандэнт: — *Сёння нам прапаноўваюць проста пачакаць. Але гэтае чаканне зацягнулася ўжо на дзесяцігоддзе...*

**М.Скур"ят:** — І перспектывы не відаць. Ствараецца ўражанне, што эканомікі рэспублікі наносіцца запланаваны ўрон. Я не магу растлумачыць, чаму мясакамбінат не можа заплаціць вытворцу рэальную цану за прадукцыю, у той час як залётныя камерсанты плацяць удвая. Рэалізоўваюць мяса, атрымліваюць прыбытак, з якога ні капейкі не паступае ў дзяржаўны бюджэт. Так раскідваюцца апошнія крошкі калгаснага багацця.

Карэспандэнт: — *Гаворка ідзе аб рэформах. І, магчыма, на змену калгасна-саўгаснаму ладу прыйдзе прыватная ўласнасць на зямлю. Агонія скончыцца, а камандную сістэму заменіць рынак. І яго вялікасць фермер стане галоўным нашым карміцелем. Асабіста зацікаўлены ва ўласным прыбытку, у захаванні сваёй маёмасці, ён стане адзінай альтэрнатывай "усяго кругом калгаснаму"...*

**М.Скур"ят:** — Пытанні асабістай зацікаўленасці людзей у выніках сваёй працы сапраўды не прадуманы. Але і пры каманднай сістэме было ўсё ж нейкае сумленне ў народа. Гляньце, што робіцца зараз. Страшна ездзіць па фермах. Там сцяна разабрана, там шыфер са страхі сцягнуты. Ідзе адкрытае рабаўніцтва. Гэтага мы дамагаліся, уступаючы ў перыяд рэформ?

**М.Вайтулевіч:** — Адмовіліся ад цэнтралізаванага планавання. А што атрымалі ўзамен? Дзяржзаказ нібыта існуе. Але ён не пацверджаны дагаворамі. І таму з такой цяжкасцю атрыманую прадукцыю мы не можам збыць. Скормліваем жывёле высакасортную бульбу, якую з задавальненнем купілі б жыхары Масквы і Пецярбурга. Але, прабачце, калгасы не могуць сёння гандляваць у краінах блізкага замежжа. Па-першае, таму, што не маюць ні транспарту, ні запчастак, ні гаручага... Па-другое, падобны гандаль проста небяспечны.

**В.Шахрай:** — Не ўсе экспедытары, гандлюючыя на рынках блізкага замежжа, вяртаюцца дамоў жывыя і здаровыя. Падобныя трагічныя гісторыі мелі месца і ў нашым раёне.

**М.Скур"ят:** — А ўсё гэта гаворыць аб тым, што рынак павінен быць цывілізаваны, стымуляваць пошук новых тэхналогій у імкненні сапернічаць з канкурэнтамі, развіццё вытворчасці тавараў... Пакуль жа стымулюецца ашуканства. І ў адваротным мяне ніхто не пераканае.

Карэспандэнт: — *На пачатку нашай размовы хтосьці з вас заўважыў, што вы палітыкі, а не тэхнолагі. І ўсё ж для нармальнага развіцця патрэбна, напэўна, адпаведная заканадаўчая палітыка, рашэнні, якія б нацэльвалі на пераход да цывілізаваных рыначных адносін. Гэта павінны рабіць людзі, якія стаяць на чале кіраўніцтва ці прыйдуць да ўлады. Чаго вы чакаеце ад іх?*

**В.Шахрай:** — Нармальнай цэнавай палітыкі, эквівалентнага абмену паміж гарадам і вёскай, чаго мы так даўно дабіваемся. У перагаворах з Расіяй мы сёння не выступаем партнёрамі. Да раўнапраўя далёка, калі нафту нам прадаюць па цане, вышэйшай за сусветную. Чаму, каб толькі праехаць праз тэрыторыю Літвы, мы павінны плаціць долары, а праз нашу Беларусь ездзяць каму куды захочацца. І нафта -, і газаправоды, і транспартныя шляхі — усе яны пралягаюць па нашай зямлі... Сёння наш урад не можа адстаяць інтарэсы беларускай дзяржаўнасці — гэта адназначна.

Карэспандэнт: — *І ўсё ж, калі вярнуцца на нашу грэшную зямлю: які прагноз на пасяўную?*

**В.Шахрай:** — Яна будзе цяжкая. У асноўным па не залежачых ад працаўнікоў сельскай гаспадаркі прычынах. Аб большасці з іх мы з вамі ўжо гаварылі. Становішча цяжкае, але не безнадзейнае. Наколькі нас хопіць — невядома, але пакуль трымаемся.

